Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

5–11 снежня 1998 года
№ 75 (155)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Журналістаў інфармуюць...

Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДа з 1 па 3 снежня арганізаваў семінар для прадстаўнікоў прэсы, зацікаўленых службаў і спецыялістаў у г. Мінску, прысвечаны прафілактыцы гэтай хваробы на тэрыторыі нашай рэспублікі. З журналістамі сваімі поглядамі на праблему падзяліліся прадстаўнікі Нацыянальнага Цэнтра па прадухіленню СНІДа, грамадскія арганізацыі, UNICEF і UNAIDS. У рабоце семінару прымаў удзел і карэспандэнт "Газеты для вас" А. Горбач. Больш падрабязна аб рабоце семінара чытайце ў бліжэйшых нумарах нашай газеты.

### Не лыкам шытая!

Шэсць інфармацыйна-прапагандысцкіх групаў, якія ўзначальваюць чыноўнікі райвыканкама, вядуць размову ў працоўных калектывах раёна аб стабілізацыі эканомікі, паспяховай рабоце прадпрыемстваў і калгасаў і растлумачваюць людзям, чаму пры такой стабільнасці цэны скачуць, бы тыя жабцы, а зарплата знізілася ад пачатку года ў тры разы. Ох, незайздросная ў інфарматараў доля! Але ж і шасцёрка не лыкам, як гаворыцца, шытая! На ўсе пытанні ведае адказы! Шасцёрка сіла!

Пашанцавала. Фота IREX/ProMedia.

### ЧАКАЛІ ПАЛЯПШЭННЯ...

Людзі з нецярпеннем чакалі 1 снежня. Прэзідэнт нашай рэспублікі абвясціў, што менавіта да гэтага дня будзе насычаны спажывецкі рынак неабходнымі таварамі, словам, у нашай эканоміцы наступіць стабілізацыя. І што ж мы ўбачылі?

Цукру няма, масла няма, яек няма ў свабодным продажы. То ў адным, то ў другім магазіне часам наяўляюцца названыя прадукты. У адны рукі адпускаюць: цукру — 1 кг (у сельскай мясцовасці — 0,5 кг), масла — 200 грамаў, яек — адзін дзесятак. Звычайна гандлююць гэтымі прадуктамі пад вечар, і тым самым ствараюць вялікія чэргі. Гандаль ідзе не больш адной-дзвюх гадзін. Гараджане, як правілы, разыходзяцца незадаволенымі.

Цэны таксама не знізіліся, а, наадварот, павысіліся: на хлеб, малако, масла, мяса, крупы, муку, цукеркі. Што чакаць далей?

## ЦІ БУДЗЕ НОВЫ ГОД З ЁЛКАЙ?

Ужо менш за месяц застаецца да Новага Года — адамантычнага і такога жаданага для ўсіх свята. На жаль, год 1999 прыходзіць да нас у тлуме цэнаў і неверагоднай інфляцыі. Тым не менш, кожнай сям'і хочацца мець у кватэры ці дома ёлачку. Мы пацікавіліся ў магазіне культтавараў цэнамі на ёлачныя цацкі і ўпрыгожанні і вырашылі, што і нашым чытачам цікава будзе даведацца аб іх кошце. А вось вырашаць пытанне — купляць ці не купляць цацкі на ёлку — будзе кожны самастойна ў залежнасці ад сваёй зарплаты ці пенсіі.

Што датычыць лясных прыгажунь — ёлачак, то іх Івацэвіцкі лясгас будзе прадаваць напярэдадні свята. "Колькі будзе каштаваць лясная госця, вызначыць аблвыканкам", — адказалі на наша пытанне ў лясгасе.

| | | |
|---|---|---|
| ёлка штучная (маленькая) | — | 406000 руб. |
| —//— | — | 350000 руб. |
| —//— | — | 280000 руб. |
| электрагірлянда | — | 404300 руб. |
| —//— | — | 358800 руб. |
| гірлянда з шышкамі | — | 516100 руб. |
| —//— | — | 405600 руб. |
| шар | — | 87100 руб. |
| —//— | — | 85800 руб. |
| —//— | — | 76700 руб. |
| гірлянда-каласок | — | 70000 руб. |
| вярхушка | — | 104000 руб. |

### Перабояў не назіраецца

Нават у савецкія часы прадуктовага дэфіцыту ў Бярозу ездзілі жыхары навакольных вёсак, Івацэвічаў за харчовымі таварамі. Гэту сваю "марку" Бяроза трымае і зараз, калі ўзнік ажыятажны попыт на малочныя, мясныя і некаторыя іншыя прадукты. У магазінах няма перабояў з малочнымі прадуктамі, праўда, масла бутэрбродное адпускаецца па адной пачцы ў рукі. Ёсць у продажы і яйкі, якія, хоць у абмежаванай колькасці (1 дзесятак на рукі), можна купіць.

Мо чыноўнікам ад мясцовай улады з Івацэвічаў варта было б прыехаць у Бярозу і пераняць вопыт работы па забеспячэнню людзей таварамі першай неабходнасці?

### Кантралёры ў нас прынцыповыя!

Пры недахопе харчавання і чэргах заўсёды хапае працы кантралёрам і кантралёрам за кантралёрамі. Кажуць, у Белаазёрску, адну з гандлярак гарадской крамы аштрафавалі на 3,5 млн. рублёў за тое, што нехта з пакупнікоў, 3 разы адстаяўшы ў чарзе, набыў 3 дзесяткі яек.

БЯРОЗА

### Служить рады...

Бронная Гора. Дислоцирующаяся здесь воинская часть ждет новобранцев. В ГДК Березы состоялось собрание призывников, их родителей и общественности района, посвященное очередному призыву юношей в армию.

Можно по-хорошему позавидовать тем ребятам, которые придут служить на арсенал "Бронная гора". В воинской части — строгая дисциплина, заботливые командиры, нет случаев дедовщины. Это подтвердил военнослужащий срочной службы, уроженец Березовщины Алексей Ткаченко, который выступал на собрании. В части воины не только несут воинскую службу, но и живут интересной, насыщенной жизнью. Недавно, например, принимали участие в республиканских соревнованиях по военно-прикладным видам спорта и заняли общекомандное I место.

### Адзначылі дзень рэвалюцыі...

Жыхарка вёскі Ярцавічы выязджала з дому на святкаванне кастрычніцкіх святаў. Але, калі вярнулася, вачам сваім не паверыла: у адным з вокнаў дома не было шкла. Не знайшла яна і пакінутых у доме 1400 долараў, 2750 расійскіх рублёў і чатырох найменаванняў залатых ювелірных вырабаў.

Па гарачых слядах работнікі Бярозаўскага РАУС хутка выйшлі на рабаўнікоў. Імі аказаліся двое юных грамадзянаў вёскі (1982 г. н.). Хлопцы дзень рэвалюцыі адзначылі па-свойму (а мо і па кастрычніцкай традыцыі — у дзень жа перавароту таксама грабілі багацеяў). Аднак грошы не паспелі ці не здолелі прамătаць. Цяпер супраць падлеткаў узбуджана крымінальная справа.

### Жыць не схацеў...

У нядзелю, 29 лістапада, у вёсцы Светач без нейкіх відавочных прычынаў павесіўся 13-гадовы хлапчук. Кажуць, што перад тым ён казаў сябрам: "Мне засталося жыць 5 дзён". Потым: "...3 дні". А як маці перажыць гэтае гора?

БАРАНОВИЧИ

### Звычайны фашызм

РНЕ

**У апошні час у Баранавічах на аб'явачных тумбах, дошках, стэндах, сценах шматлікіх будынкаў з'явіліся лістоўкі арганізацыі "Русское национальное единство" (РНЕ) А. Баркашова, падмацаваныя літарамі РНЕ і выявай свастыкі.**

Хто праходзіць паўз лістоўкі раўнадушна, хто — чытае, а дзеці нават выкарыстоўваюць іх у якасці мішэні ў гульні ў снежкі.

Аднак ці такія бяскрыўдныя гэтыя лістоўкі? Баранавіцкая гарадская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" выступіла з заявай аб пагрозе дзейнасці арганізацый фашысцкага толку на тэрыторыі горада. "Аб адыёзнай дзейнасці РНЕ, — гаворыцца ў заяве, — грамадзяне Беларусі ўжо досыць шмат ведаюць з расійскіх тэлеканалаў. Як вядома, гэтая арганізацыя вядзе адлік сваёй біяграфіі з 1990 года і на сённяшні дзень налічвае каля 6 тысяч членаў і каля 30 тысяч прыхільнікаў. Яе праграма, асабліва ў адносінах да яўрэяў, амаль даслоўна спісана з "Майн Кампф" А. Гітлера.

Баркашоўцы шмат што пераналі з практыкі італьянскіх і нямецкіх фашыстаў — ідэалогію, сімволіку, схему арганізацыі, колер уніформы, партыйнае прывітанне і іншае.

Як агульнавядома, многія члены РНЕ неаднаразова траплялі ў розныя крымінальныя гісторыі, у тым ліку звязаныя з забойствам людзей.

Варта адзначыць таксама, што дзейнасць гэтай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі пярэчыць шматлікім заканадаўчым актам нашай дзяржавы, і ў першую чаргу — Канстытуцыі РБ".

Зыходзячы з усяго гэтага, баранавіцкія сацыял-дэмакраты выказваюць пратэст супраць дзейнасці на тэрыторыі Баранавічаў арганізацыі "Русское национальное единство". Яны ўпэўнены, што гэта — звычайная экстрэмісцкая, прафашысцкая арганізацыя і патрабуюць ад мясцовых уладаў прыняцця мераў па ліквідацыі дзейнасці РНЕ у Баранавічах. "Наш народ у вялікай меры зведаў на сабе, што такое фашызм, — падкрэсліваецца ў заяве, — страціўшы ў апошнюю вайну амаль кожнага трэцяга суродзіча, і мы спадзяемся, што ў яго хопіць волі, розуму, годнасці, каб адпіхнуць ад сябе антычалавечую, антыгуманную ідэалогію крайняга нацыяналізму і расізму".

### Каму — бяда, каму — нажыва

Хто не перажывае з-за таго, што цэны растуць нібы на дражджах? А вось жа ёсць людзі, якім гэтая падзея даспадобы. У магазіне № 10 птушкафабрыкі "Дружба" працуюць яны. Пры праверцы работнікамі міліцыі былі выяўлены прыхаваныя 1100 бутэлек гарэлкі "Русской". Іх прадаўцы спрабавалі не пераацэньваць, а розніцу ў кошце, вядома, думалі пакласці ва ўласную кішэню. Не ўдалося. Толькі ці адны яны такія прадпрымальныя і хітрыя?

### Лечиться будем травами

Обратиться к народной медицине придется жителям города Барановичи нынешней зимой. Антибиотиков в аптеках нет и, видимо, не будет. По словам заведующей центральной аптеки И. В. Верес, отечественные производители медпрепаратов обеспечить аптеки лекарствами не могут, потому что основа для медикаментов в республике не производится. Ее нужно покупать за валюту.

Обещают, правда, к концу месяца доставить в аптеки партию антибиотиков. "На два часа торговли хватит", — сказала Ирина Викторовна. А еще в исполкоме вроде бы пообещали подкорректировать бюджет города на медикаменты.

Нам же остается запасаться лекарственными травами. Зима впереди длинная.

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы).*

● *ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ*

# ДОЛЯ ЖАНОЧАЯ



***Доля жаночая. Якая яна? Шчаслівая ці гаротная, добрая, кепская, сірочая ці наогул праклятая. У кожнай жанчыны, як ні кажы, яна свая, адметная і, безумоўна, непаўторная. Як нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж ваду ў рацэ, так і нельга знайсці дзвюх жанчын зусім з аднолькавай доляй. Не верыце? Тады давайце разам пабываем у вёсцы Гошчава, сустрэнемся з яе жыхарамі, і яны вам раскажуць...***

Вось сям'я Георгія Бандарыка. Гошчаўцы ведалі і сёння ведаюць яе. Георгій жаніўся на мясцовай дзяўчыне. Завёў уласную гаспадарку. Трое дзяцей нажыў: двое дачок — Надзею і Веру, сына Ціхана. Здарылася так, што яго жонка моцна захварэла і памёрла. Дзеці засталіся без маці. А гэта сапраўднае няшчасце ў сям'і. Не кожны бацька зможа без жонкі змалку гадаваць сваіх нашчадкаў. Відаць, Юрка (так проста звалі Георгія гошчаўцы) сам бы не здолеў падняць на ногі сваіх дзяцей. У такіх умовах (а гэта было пры панскай Польшчы) трэба мець не толькі чалавечую мужнасць, а штосьці большае. Невядома, як было б далей, калі б у сям'і Бандарыка не паявілася новая жанчына-Волька...

## Волька, Вольга Якаўлеўна

Для самога Георгія Бандарыка паяўленне ў хаце новай жанчыны не з'явілася нечаканасцю. Ягоная жонка Насця, адчуваючы, што жыццё пакідае яе, узяўшы за руку свайго Юрку, калі ён сядзеў ля ложка, папрасіла:

— Мае дні злічаныя. Вазьмі да сябе Вольку, маю траюрадную сястру, нашу хросную. Яна дзяцей даглядзіць, не дасць у крыўду. Вельмі прашу цябе, — і заплакала.

Юрка выканаў наказ сваёй першай жонкі і праз тры гады ажаніўся на Вольцы. Яна жыла ў сям'і свайго брата. Увогуле, сірата. Засталася без маці яшчэ ў пялёнках. Брат меў сваю зямлю. Аддаць сястру замуж — значыць трэба выдзяліць ёй у якасці прыданага кавалак свайго надзелу. А яму ніяк не хацелася дзяліцца, бо свае дзеці падрасталі. А без прыданага жаніцца на Вольцы ахвотніка не знаходзілася, таму засядзелася яна ў дзеўках.

Калі Юрка прапанаваў Вольцы раздзяліць з ёй ягоны лёс, спярша пабаялася, засаромелася, маўляў, што скажуць людзі, але потым згадзілася, бо ўсё роўна брат не дасць зямлі. А Юрка прыданага не толькі не патрабаваў, але не ўспамінаў нават пра гэта. Так сышліся беззямельная Волька і з добрым надзелам зямлі і з дзяцьмі Юрка Бандарык.

Жылі, працавалі, гадавалі Надзею, Веру і Ціхана, яшчэ нажылі пяцёра дзяцей: дочак Любу, Марыю і Ганну, сыноў Уладзіміра і Мікалая. Вось такая сямейка выйшла.

У ліпені 1944 года, калі Косаўскі раён быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Бандарыка забралі ў войска. На прыёмным пункце ў Косаве яму сказалі аб тым, што ён можа вяртацца да хаты, бо ў яго вялікая сям'я і малыя дзеці. Але ж Юрка рашыў інакш.

— Не сёння, дык заўтра ўсё роўна забяруць, — сказаў тады ён і дамоў не пайшоў, як раілі. Падаўся на фронт дабіваць захопнікаў і адтуль ужо не вярнуўся. У хату прынеслі пахавальную. Гэта было 11 мая 1945 года. Дзеці засталіся без бацькі. Усе васьмёра: пяць дачок і тры сыны.

Стаўшы гаспадыняй у доме Юркі Бандарыка, Волька перш-наперш паставіла перад сабой задачу: заслужыць давер Юркіных дзяцей, адразу траіх: васьмігадовай Надзі, шасцігадовай Веры і пяцігадовага Ціхана. І гэта ёй удалося даволі хутка. Чаму? Галоўнае ў тым, што яна хросная маці гэтых дзяцей, і яны блізка ведалі яе. Знаёміцца не прыходзілася, а вось прывыкаць да новай ролі хроснай трэба было. Праўда, большая Надзька спярша не магла назваць Вольку сваёй мамкай. Можа, ад таго, што ў яе свядомасці ўжо склаўся вобраз маці і спатрэбіўся нейкі час, каб перамагчы сябе, прызнаць новую. Кажуць, душы не загадаеш. Да таго ж дзіцячая душа яшчэ такая мяккая, кволая, лёгка ранімая. І Волька сваёй цеплынёй, ласкай, проста жаночай шчырасцю змагла ажывіць не адну застылую дзіцячую душу, а ўсе тры. І ніяк тут не падыходзіць народная мудрасць, якая сцвярджае: глядзі чалавеку ў душу, а калаці як грушу. Ніколі Волька не падымала руку на ўсіх сваіх дзетак. Ніколі. Мо таму і заслужыла ў іх давер і аўтарытэт.

Ужо змалку старэйшыя дзеці даглядалі малодшых. Яны ж, асабліва Надзя, Вера і Ціхан дапамагалі бацьку і маці па гаспадарцы. Калі падраслі Люба і Марыя, то таксама бацькі знаходзілі ім работу па сяле.

І самае галоўнае, бадай, у тым, што дзяцей у сям'і ніхто не дзяліў і не дзеліць на сваіх і чужых. Такога паняцця не было і няма па сённяшні дзень. Вось каму трэба пазайздросціць і ў каго вучыцца ўсталёўваць у сваёй сям'і спакой, згоду, цёплыя ўзаемаадносіны. Без сумнення, галоўным канструктарам такіх узаемаадносін была не хто іншы як маці, Вольга Якаўлеўна. Нават у цяжкія перадваенныя гады бацькі на дзіва былі спакойныя (ва ўсякім разе знешне) і не гублялі прысутнасці духу. Справа ў тым, што сям'я Бандарыкаў лічылася серадняцкай, значыць блізкай да кулацкай. У гаспадарцы былі два кані, жарабя, дзве каровы, 12 гектараў зямлі, увесь патрэбны сельгасінвентар. Сам гаспадар пры польскай уладзе прадаваў з дому ўсё, што можна, і да свайго надзелу дакупляў па кавалку зямлі. Таму мясцовыя ўлады ўнеслі сям'ю Бандарыкаў, як багатых, у спіс на раскулачванне і вываз яе на Поўнач ці ў Сібір. Вядома, што ў душы Юркі і Волькі ўвесь час было неспакойна, сядзелі, нібы на парахавой бочцы, у чаканні загаду. Мучылі Бандарыкаў да самага пачатку вайны. Відаць, вайна перашкодзіла бальшавікам здзейсніць задуманае — па сутнасці знішчыць яшчэ адну, пры тым мнагадзетную, ні ў чым не вінаватую беларускую сям'ю, якая карміласяўласнай працай.

Страшная вайна, як ні дзіўна, вызваліла сям'ю Бандарыкаў ад пакутаў чакання тады моднага раскулачвання і вывазу далёка-далёка ад дому на новыя пакуты, а, можа, і на смерць. Як паказаў час, многія адтуль не вярнуліся. Аднак вайна зрабіла сваю чорную справу — забрала бацьку ад сям'і. Аднак Волька не думала здавацца, нягледзячы на ўсе цяжкасці. Яшчэ ў вайну партызаны проста з хлява забралі каня і карову. Калі ж стварылі калгас у Гошчаве, то абагульнілі і ўсё астатняе: каня, збрую, павозку, зямлю, увесь глебаапрацоўчы інвентар, два гумны. Невялікі зямельны надзел пакінулі, відаць, улічылі, што багата едакоў.

— Верце, дзеткі, — казала тады Волька. — калгас — гэта несур'ёзна і ненадоўга. Не могуць яны трымацца на людскіх слязах. Рана ці позна іх не стане...

Як бачым, вялікі прарок была Вольга Якаўлеўна.

Як жа спраўлялася наша Волька з усімі клопатамі ў хаце, па гаспадарцы, у полі і на лузе? Як успамінаюць дзеці, шмат гаравала іх маці. Умела араць і касіць, жаць жыта і ткаць палатно, пячы хлеб і шыць дзецям адзенне... Нароўні з маці працавалі Надзя, Вера і Ціхан. Дый родзічы не адмаўляліся пасабляць, асабліва дзядзька Іван. Праўда, ён, як стары чалавек, больш камандаваў. Але і гэта расцэньвалася жанчынамі як значная падмога.

Нялёгкім было жыццё Вольгі Якаўлеўны. Аднак яна, кажуць, была па-свойму шчаслівая. І сваё шчасце бачыла ў дзецях. На іх плечы, асабліва жаночыя, як і на матчыныя, выпаў цяжкі груз штодзённых клопатаў, трывог і хваляванняў. І яны неслі і нясуць сваю спрадвечную ношку, не крыўдуючы на свой лёс, мужна, нібы салдаты, крок за крокам пераадольваючы жыццёвыя перашкоды і нягоды.

*С. КАЖАДУБ.*

**(Працяг будзе).**

**в. Гошчава Івацэвіцкага раёна.**

*НА ЗДЫМКУ: Вольга Якаўлеўна Бандарык (фота 1970 г.).*

● *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

# КАК УКРЕПИТЬ ИММУНИТЕТ?

Оказывается, сегодня все привычные болезни протекают по-другому, нежели несколько лет назад. Вирусы, вызывающие их, мутируют, появляются все новые, устойчивые к существующим медикаментам их разновидности — штаммы, которые традиционными антибиотиками только что не питаются. В качестве ответных мер медики изобретают новые, все более сильные лекарства, но через определенное время вирусы вырабатывают устойчивость и к ним. Заколдованный круг? Почти.

Часто мы забываем о такой важной вещи, как профилактика. Обладая хорошим иммунитетом, так просто не заболеешь.

В наше время существует прекрасная альтернатива — биологически активные пищевые добавки.

По внешнему виду биологически активные добавки к пище (БАДы) напоминают лекарства: таблетки, бальзамы, настои, порошки и другие виды лекарственных форм. А по своему назначению — это источники наиболее дефицитных для человека пищевых регуляторных веществ. Они укрепляют организм и повышают иммунитет.

Кроме того, существуют и "узкоспециализированные" добавки, действие которых направлено на нормализацию работы различных органов и систем нашего организма. Суперсовременные технологии позволяют заключать в маленькие объемы весьма значительные количества дефицитных в питании и столь необходимых нам витаминов и неорганических веществ: макро-и микроэлементов. Мы расскажем о некоторых БАДах, распространяемых компанией "Визион". Выбор, который предлагает эта компания, удовлетворит самого взыскательного человека.

Компонентами биодобавки "Детокс+" являются вещества, поддерживающие функционирование иммунной системы. Этими веществами особенно богата кора ункарии мучительной, древовидной лианы, растущей в перуанских лесах Амазонии. Она и является главным компонентом этого продукта. Издревле местные индейцы заваривали его кору и корни для лечения болезней, связанных с пищеварительной и иммунной системами. Специалисты компании "Визион" обратили внимание на целебные свойства этого растения, и после тщательного их изучения появился "Детокс+" — продукт, прекрасно очищающий организм. Испытания "Детокса+" были проведены в клинике лечебного питания Института питания РАМН. При этом у испытуемых изучалось большое количество показателей. В результате было подтверждено общеукрепляющее и иммуномодулирующее действие этого продукта.

А теперь немного поговорим о свободных радикалах.

Наш организм непрерывно подвергается их агрессивным атакам. Свободные радикалы, как мы помним из школьных уроков по химии, это неполные молекулы, обладающие положительной валентностью. Наше экологически неблагополучное время непрерывно порождает целые полчища этих агрессоров, которые, набрасываясь на молекулы наших клеток, отнимают у них электроны. Молекулы сами становятся свободными радикалами. Начинается цепная реакция разрушения клетки. Результаты самые трагические: это и преждевременное старение, и целый сонм болезней, в том числе таких опасных, как болезнь Кишана, приводящая к перерождению сердечной мышечной ткани и даже к гибели грудных младенцев. Но существуют вещества, которые нейтрализуют свободные радикалы, превращая их в безобидные частицы. Эти "защитники" называют антиоксидантами.

В состав биологически активной пищевой добавки "Антиокс+" включены преимущественно компоненты антиоксидантного действия — экстракт виноградной выжимки, витамины С, Е, бета-каротин, селен, цинк, а также гинкго двудольная — растение, на протяжении многих веков используемое в восточной медицине как стимулятор мозговой деятельности у пожилых людей. Антиоксидантное действие листьев растения проявляется степенью насыщения кислородом капилляров и циркуляцией крови в периферической части мозга, которая отвечает за жизнеспособность и здоровье человека.

Клинические испытания подтвердили эффективность "Антиокса+" в качестве общеукрепляющего средства, в том числе для профилактики сердечно-сосудистых заболеваний, а также заболеваний, обусловленных повышенным воздействием неблагоприятных экологических факторов.

БАД "Лайфпак Юниор+" предназначена для детей. Выпускается в виде жевательных таблеток с шоколадным вкусом и содержит все необходимые растущему организму вещества. Передозировки бояться не стоит — прием витаминов в дозах, превышающих потребность в 2—3 раза, позволяет не только ликвидировать дефицит этих веществ, но и обеспечить оптимальное функционирование организма и предохранить его от заболеваний.

"Лайфпак+" представляет интерес для взрослых. Он состоит из четырех комплексов. Витаминный комплекс удовлетворяет суточную потребность в основных витаминах, минеральный — полностью удовлетворят потребность в железе, йоде и цинке. А "антиоксидантный" — бета-каротин и экстракт виноградной выжимки снижает воздействие на организм токсических веществ и радиации. В состав последнего комплекса входят бифидумбакетерии, регулирующие работу кишечника и участвующие в синтезе некоторых витаминов. Дефицит бифидумбактерий в кишечнике приводит к дисбактериозу, заболеванию, которым страдает огромное количество людей, даже не подозревающих об этом, поскольку дисбактериоз плохо поддается диагностированию. Между тем многие ученые связывают с ним вторичные иммунодефициты и как результат — онкологические, бактериально- и вирусозависимые заболевания. Таким образом, "Лайфпак+" проявляет универсальное оздоравливающее действие. А для людей, проживающих и работающих в экологически неблагоприятных условиях и испытывающих высокие стрессовые нагрузки, "Лайфпак+" просто незаменим.

*"Труд-7" за 13 ноября 1998 г.*

